**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 30 (903) 27 ліпеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**У Глыбокім прайшоў чаргова пяты юбілейны Вішнёвы фестываль. На здымку: выступаюць глыбоцкія музыкі.**
Аб некаторых мерапрыемствах у рамках фестывалю, чытайце на стар. 4-5.
*Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023



## Аршанскі раён

# На паратунак усёй краінай

■ Станіслаў Раманчук.

**У прамысловых прадпрыемстваў, як і ў людзей, бываюць як чорныя, так і светлыя перыяды ў іх дзейнасці.**

Яшчэ летась мала хто з работнікаў Аршанскага інструментальнага завода верыў, што ўдасца выратаваць ад непазбежнага краху іх прадпрыемства, у мінулым саюзнага значэння. На шчасце, ягоным лёсам занепакоілася вышэйшае кіраўніцтва краіны, а А. Лукашэнка даручыў ураду дапамагчы завадчанам. У свой час аршанцы самі адклалі правядзенне наспеўшай мадэрнізацыі, з амаль трохтысячнага калектыву, працаваўшага ў 3 змены, на гіганце засталося крыху больш 400 работнікаў. Тут усё прагніла, шмат дзе саржавела, дахі цяклі, за даўгі арыштавалі рахункі завода, сёлета больш чым на тыдзень адключылі падачу электраэнергіі. Да сумнага фіналу ледзь не прыйшлі таму, што з 1974 года не мянялі асноўнае абсталяванне, не набывалі сучасныя станкі. Аднак дапамог шчаслівы выпадак, распрацаваны дэтальны бізнес-план мадэрнізацыі коштам 62,5 млн. долараў стаў агульнанацыянальным праектам. З дапамогай урада ў завода з'явіліся перспектывы, бо попыт на яго прадукцыю ёсць, як унутры Беларусі, так і за яе межамі. З энтузіязмам сталі працаваць завадчане, бо актыўна ідзе цяпер рамонт дахаў і вытворчых карпусоў. Са старых цэхаў пазбавіліся ад металалому, на яго месца набудуць патрэбныя высокапрадукцыйныя механізмы і тэхналогіі. За бліжэйшых паўтары-два гады завод стане не пазнаць, завадчане дамовіліся аб сумеснай дзейнасці па дагаворах з сусветнымі лідарамі галіны, нямецкімі кампаніямі Walter i Bosch. Калі ў аршанцаў атрымаецца перайсці на 5-ты тэхналагічны ўзровень, то іх завод стане адным з самых сучасных у Беларусі.

## Віцебск

# Гуляць дык гуляць!

■ Чэслаў Якубовіч.

**Каторы год у сярэдзіне лета эпіцэнтрам культурнага жыцця краіны на цэлы тыдзень становіцца наш абласны цэнтр.**

Вось і сёлета падчас XXVI Міжнароднага Фестывалю мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” грандыёзнае свята талентаў сабрала прадстаўнікоў 37 краін свету, упершыню – гасцей з Эквадора і Нігерыі. Толькі на галоўнай пляцоўцы ў Летнім амфітэатры адбыліся 18 маштабных канцэртаў, на якія большасць білетаў былі раскуплены. У горадзе многія з задавальненнем наведалі адзін самы хвалючы з іх - памяці народнага артыста Беларусі А. Ціханавіча. Па добрай традыцыі “запалілі” новую васільковую зорку ў гонар праслаўленай грузінскай артысткі Тамары Гвердцытэлі. Падчас фестывалю цяжка было дастаць квіткі на знакавы праект “Тэатральныя сустрэчы”. Вельмі добра, што на гэтым свяце годна былі прадстаўлены ўсе рэгёны Прыдзвіння. У традыцыйным Горадзе майстроў панадворкі 21 раёнаў вобласці ўпершыню аб'ядналіся з турнірам бытавых беларускіх танцаў. Прайшоў таксама ўпершыню міжнародны конкурс барабаншчыц і мажарэтак з Беларусі, Расіі і Эстоніі. Яшчэ больш народных майстроў удзельнічалі ў міжнародным конкурсе-пленеры рэзчыкаў з дрэва “Дрэва жыцця”, дзе акрамя беларусаў спаборнічалі творцы з Расіі, Украіны і Латвіі. Вялікае захапленне ў аматараў прыгожага і вечнага пакінула выстава 69 шэдэўраў знакамітага галандскага мастака Рэмбрандта ў Мастацкім музеі. На працягу некалькіх дзён цэнтральныя віцебскія вуліцы і плошчы пераўтвараліся ў суцэльную канцэртную пляцоўку. У абласным цэнтры летам зноў высадзіўся сапраўдны дэсант папулярных спевакоў і такіх зорак, як Крыс дэ Бург, Хуліа Іглесіас малодшы, Лайла Ібрагім.

## Полацкі раён

# Кожнаму – сваё

■ Кастусь Александровіч

**Дамаўляцца з непрадказальнай Расіяй па розных пытаннях стала няпроста не толькі большасці краін свету, але і суседняй Беларусі.**

Шмат беларускіх спартсменаў страцілі працу ў расійскіх клубах пасля ўвядзення там квот на замежных легіянераў, якімі сталі лічыць таксама беларусаў. Расійскія спортфункцыянеры рознымі спосабамі пераманьваюць да сябе нашых маладых перспектыўных атлетаў, сталі ставіць перад імі жорсткія ўмовы для прадаўжэння кар'еры. Перад пачаткам новага сезона ў КХЛ вымушаны быў пакінуць хакейны клуб “Трактар” (Чэлябінск) 33-гадовы беларускі абаронца Уладзімір Дзянісаў. Выхаванец хакейнай школы Навапалацка паступіў як сапраўдны патрыёт сваёй радзімы. Ён адмовіўся змяніць беларускае грамадзянства на расійскае, бо хацеў прадоўжыць выступленні за родную нацыянальную зборную, за якую гуляў на 9 чэмпіянатах свету і на Алімпійскіх гульнях у Ванкуверы. Уладзімір хоць і страціў адчувальна ў заробках, але палічыў за лепшае вярнуцца за Радзіму, дапамагчы сталічнаму “Дынама”, дзе ў складзе мінчан правёў раней паўтары сотні матчаў. Такі ўчынак дастойны павагі, бо ў наш меркантыльны час іншыя суайчыннікі за што заўгодна гатовы прамяняць сваю краіну. Зусім па-іншаму павёў сябе сёлета летам капітан зборнай Беларусі па хакеі Андрэй Стась. Яму на расійскіх прасторах паабяцалі вялікія грошы і прафесійны кантракт адразу на 3 гады ў омскім “Авангардзе” за адмаўленне ад беларускага грамадзянства і сцвярджэнне таго, што не стане гуляць у былой нацыянальнай зборнай. Дарэчы, і з мінскага “Дынама” Андрэй сышоў адным з першых, тады, калі ў клуба ўзніклі пэўныя фінансавыя цяжкасці і закончыўся кантракт.

## Аб самым надзённым

# АДЗІН З ФЛАГМАНАЎ АЙЧЫННАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ “МОТАВЕЛА” АБАНКРОЦІЎСЯ, ЧВЭРЦЬ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ КРАІНЫ СТАЛІ СТРАТНЫМІ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**У выніку цяпер жыццё на “Мотавела” практычна замерла, хоць па пару тысяч кітайскіх ровараў працягваюць выпускаць. Аднак велізарныя даўгі перад банкамі, іншымі крэдыторамі, запазычнасці перад дзяржбюджэтам і сваімі працаўнікамі паставілі фактычна крыж на слаўнай у мінулым гісторыі дзейнасці аднаго з лепшых сталічных заводаў.**

У шэрагу паўсядзённых падзей халаднаватага сёлета лета многія беларусы маглі і прапусціць у штодзённай мітусні даволі значную падзею. Напрыканцы чэрвеня новы кіраўнік сталічнага мотавелазавода, былы старшыня Мінскага гарвыканкама Мікалай Ладуцька падаў у Эканамічны суд заяву аб банкруцтве свайго легендарнага прадпрыемства. У моцна разбураны пасля вайны горад яшчэ позняй восенню 1945 года прывезлі з Германіі станкі фірмы DKW, а ўжо праз два гады паўстаў спачатку велазавод, а ў пачатку 50-х там пачалі выпускаць і беларускія матацыклы.

За савецкім часам яно расквітнела, стала адным з флагманаў прамысловасці БССР. Практычна ў кожнай сям'і беларусаў ездзілі на мінскіх роварах, яны добра разыходзіліся і ў саюзных рэспубліках, бо штогод іх выпускалася да 900 тысяч штук. Кожны малады савецкі хлопец з гонарам катаўся на мінскіх матацыклах, іх выпускалі таксама шмат, да 200 тысяч у год. Аднак потым наступілі чорныя часы, беларускія веласіпеды выцеснілі замежныя канкурэнты і на расійскім рынку збыту. Рабочыя, абураныя нізкімі заробкамі, некалі перакрылі сталічны праспект. Дзяржава спрабавала ратаваць гэта прадпрыемства, дала яму субсідыі ў суме 17,3 млрд. рублёў, а потым прадала аўстрыйскай кампаніі, якую ўзначальваў арыштаваны потым беларускі бізнесмен А. Мураўёў.

У выніку цяпер жыццё на “Мотавела” практычна замерла, хоць па пару тысяч кітайскіх ровараў працягваюць выпускаць. Аднак велізарныя даўгі перад банкамі, іншымі крэдыторамі, запазычнасці перад дзяржбюджэтам і сваімі працаўнікамі паставілі фактычна крыж на слаўнай у мінулым гісторыі дзейнасці аднаго з лепшых сталічных заводаў. Гэта гісторыя ў многім паказальная тым, што адлюстроўвае няпростыя працэсы ў беларускай эканоміцы, дзе толькі падступаюцца да наспеўшых рынкавых рэформ. На знешніх рынках збыту цяпер у свеце купляюць толькі прадукцыю выдатнай якасці, якую Беларусь не можа забяспечыць са сваім сярэднім узроўнем тэхналогій вытворчасці.

Дарэчы, на Мінскім мотавелазаводзе знос асноўнага абсталявання дасягнуў амаль 100 %. На такіх станках немагчыма было рабіць высокаякасную прадукцыю і гэта праблема актуальная для многіх іншых айчынных вытворцаў. Да прыкладу, на Аршанскім інструментальным заводзе, тэхналогіі і абсталяванне не мяняліся з 1974 года, з моманту яго заснавання. Яно таксама ішло да заканамернага краху, але аршанцам пашчасціла, што за іх заступіўся А. Лукашэнка і дзяржава дапаможа гэтаму праблемнаму прадпрыемству правесці наспеўшую мадэрнізацыю.

Увогуле хоць у маі беларускія вытворцы павялічылі экспарт сваёй прадукцыі на 440 млн. долараў, кіраўніцтва краіны не хавала сваёй трывогі, як складваюцца справы і на новых узводзімых прадпрыемствах у Светлагорску і Добрушу. Прэзідэнт даў даручэнне Камітэту дзяржкантролю разабрацца, чаму ў тэрмін не адкрылі беларуска-кітайскі аўтазавод “Бел Джы”. Не толькі больш развітыя заходнія, але і азіяцкія канкурэнты выцясняюць з рынкаў збыту цяпер беларускую прадукцыю лёгкай прамысловасці, наш тэкстыль і абутак. Тым часам добра, што пасля паспяховых беларуска-кітайскіх перамоў у Мінску дзясяткі айчынных прадпрыемстваў атрымалі магчымасць прадаваць мяса ялавічыны ў Кітай.

У цэлым жа праблем у беларускіх вытворцаў хапае. Невыпадкова ў нашай краіне ў 2 разы павялічылася колькасць спраў аб банкруцтве дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, якія паступілі ў Гаспадарчыя суды. Па афіцыйных дадзеных, калі напрыканцы снежня летась суды прынялі да разгляду толькі 12 спраў аб банкруцтве гаспадарак краіны, то ў маі сёлета такіх гаротных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў стала ўжо 102.

У такіх умовах і летам спецыялісты ўрада Беларусі працавалі над некалькімі сцэнарыямі далейшага развіцця беларускай эканомікі ў наступным 2018 годзе.

Адзін з іх - кансерватыўны, прадугледжвае налета невялікі рост ВУП краіны на 1,1 %, а мэтавы план – нават структурныя пераўтварэнні на працягу пяці наступных гадоў. Дарэчы, і дасведчаныя спецыялісты Сусветнага банку прагназуюць невялікі рост беларускай эканомікі ў наступным годзе за кошт паступовага аднаўлення попыту на беларускія тавары. На Захадзе мяркуюць, што гэтаму паспрые знешняя фінансавая падтрымка найперш з боку Расіі, а таксама належная, больш жорсткая, чым раней, бюджэтна-падатковая і грашова-крэдытная палітыка, праводзімая ўрадам і Нацбанкам. Праўда, нам адначасова раяць пазбавіцца ад празмернай залежнасці беларускай эканомікі ад экспарту нафтапрадуктаў і расці эканамічна яшчэ хутчэй. Штогадовыя тэмпы росту сусветнай эканомікі ў раёне 3,5 %, мы ж пакуль адстаём і таму маем цяперашні ўзровень жыцця.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 27.07.17 | | | | Пятніца 28.07.17 | | | | Субота 29.07.17 | | | | Нядзеля 30.07.17 | | | | Пн.31.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +19 | +23 | +21 | +18 | +19 | +18 | +18 | +18 | +17 | +20 | +18 | +15 | +15 | +21 | +19 | +15 | +18 | +24 |
| Ціск | 739 | 741 | 741 | 741 | 741 | 740 | 739 | 737 | 736 | 738 | 741 | 742 | 744 | 745 | 746 | 747 | 748 | 748 | 748 |
| Вецер м/сек | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 3 Пд-З | 3 Пд-У | 4 Пд-У | 2 Пд-У | 5 Пн | 4 Пн | 5 Пн-З | 5 Пн-З | 8 Пн-З | 6 З | 6 З | 6 З | 6 З | 4 З | 3 З | 4 Пд-З | 3 Пд-З |
| Вільготнасць | 92 | 70 | 56 | 70 | 79 | 76 | 88 | 89 | 96 | 96 | 86 | 76 | 85 | 87 | 63 | 74 | 94 | 82 | 64 |

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка вызначыў канцэпцыю развіцця мястэчкаў Беларусі. Сесія ПА АБСЕ ў Мінску заклікала Расію вярнуць Крым Украіне. Беларусь дамовілася з Кітаем аб пастаўках мяса ялавічыны і птушкі. У Беларусі з'явяцца падатковыя кансультанты. Урад вырашыў на 15 % скараціць упраўленцаў "Белнафтахіма", "Беллегпрама", "Белхарчпрама". Беларусам пачалі вяртаць уплачаныя падаткі на "дармаедаў". Без дзяржсубсідый на жыллё засталіся шэраг маладых і шматдзетных сем'яў. На буйнейшых чыгуначных вакзалах краіны з'явіўся бясплатны інтэрнэт Wi-Fi. У Беларусі запрацуе сетка супермаркетаў Галандыі Spar.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША**. Прыток прамых замежных інвестыцый рэзка скарацібся ў краіну з-за імпульсіўнай палітыкі Д. Трампа, асабліва сталі асцярожнічаць бізнесмены з Германіі.

**Ірак.** Прэм'ер-міністр Х. аль-Абадзі павіншаваў армію краіны з вызваленнем другога па велічыні горада Масула ад баевікоў экскрэмісцкай групоўкі "Ісламская дзяржава".

**Кітай.** Урад краіны падтрымаў міжнародныя санкцыі і спыніў супрацоўніцтва з КНДР у ваеннай сферы з-за крайне агрэсіўнай ядзернай палітыкі Пхень'яна.

**Германія.** Самалёт прэзідэнта Расіі У. Пуціна пасля саміту G20 у Гамбургу ўпершыню даў вялікі крук у 500 км, каб абысці тэрыторыі краін НАТО, вяртаючыся на радзіму.

**Расія.** Кампанія "Газпрам", як пацвердзіла газета "Ведомости", прызнала, што новыя санкцыі ЗША могуць прыпыніць і ўвогуле спыніць будаўніцтва двух яе газаправодаў.

**Украіна.** На пасяджэнні камісіі Украіна-НАТО ў Кіеве зацвердзілі праграму дасягнення крайнай стандартаў альянсу да 2020 г., украінцы дабіліся росту дапамогі ад НАТО і ЗША.

**Азербайджан.** Раніцай войскі краіны нанеслі новы абстрэл па армянскіх пазіцыях у Нагорным Карабаху, паранілі траіх салдат, гэты канфлікт цягнецца з 1988 года.

**Польшча.** Па праграме дыверсіфікацыі крыніц энергіі і зніжэння залежнасці ад паставак з Расіі ў краіну паступіла першая партыя звадкаванага прыроднага газу з ЗША.

**Расія.** Былы прэзідэнт Украіны В. Януковіч адмовіўся ад завочнага ўдзелу па відэатрансляцыі ў судзе над ім у Кіеве па абвінавачванні ў дзяржаўнай здрадзе.

**Малдова.** Парламент краіны прыняў закон аб рэформе дзеючага ўрада П. Філіпа, скарачэнні колькасці міністэрстваў да 9 з існуючых 16 і пасад віцэ-міністраў.

**Літва.** Акруговы суд Вільнюса пакараў за шпіянаж 10 гадамі турмы супрацоўніка ФСБ Расіі Мікалая Філіпчанку, ён нелегальна некалькі разоў уязджаў у краіну.

**Расія.** Па апытаннях грамадскай думкі, толькі 13 % расіян жадаюць лібералізацыі ў краіне і прымірэння з Захадам, але чвэрць моладзі да 25 гадоў жадае выехаць з РФ назаўсёды.

**ЗША.** Вучоныя Вашынгтонскага ўніверсітэта стварылі першы ў свеце смартфон, які працуе без батарэі ад радыёсігналаў альбо святла, гэта новая эра ў свеце камунікацый.

**Швейцарыя.** Эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя папярэдзілі, што аральны сэкс стаў пагражаць людзям невылечнай ганарэяй геніталій, прамой кішкі і горла.

**Аўстралія.** Ва ўзросце 41 год беларус У. Самсонаў выйграў адкрыты чэмпіянат краіны па настольным тэнісе, адзіны ў свеце перамог на топтурнірах на 5 кантынентах.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Мінэнерга Беларусі паведаміла, што пачалася распрацоўка праекта пункта ачысткі і захоўвання радыёактыўных адходаў узводзімай Беларускай АЭС.

**Мінск.** Сёння ў Беларусі, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, дэмакратыі меней, чым чвэрць стагоддзя назад, галоўнае, што знішчаны механізм рэальных чэсных выбараў.

**Крычаў.** На адрас главы вобласці У. Даманеўскага і ў райсавет дэпутатаў 418 жыхароў горада накіравалі пісьмо з просьбай змены кіраўніцтва раёна, дзе сур'ёзны крызіс.

**Жодзіна.** Пры атрыманні хабару ў Мінску затрымалі намесніка генеральнага дырэктара БелАЗа па фінансавай і эканамічнай палітыцы, следчыя арыштавалі яшчэ 5 удзельнікаў махінацый.

**Мінск.** Эканаміст Л. Злотнікаў папярэдзіў, што набліжаецца крах папуліцкіх падыходаў і неэфектыўнай каманднай эканомікі, спробы мадэрнізацыі заканчваюцца ростам даўгоў.

**Драгічын.** На мяжы закрыцця апынуўся нерэнтабельны мясцовы камбікормавы завод, каля 300 чалавек чакае звальненне, прадпрыемства можа выкупіць канкурэнт з Жабінкі.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч заявіў, што геапалітыка вырашыла ў Мінску пытанне каштоўнасцей, факт правядзення сесіі ПА АБСЕ азначае прызнанне выбараў у нас.

**Гродна.** Урачы пасля рэнтгену паспяхова дасталі са страўніка 15-гадовай дзяўчыны іголку, якую яна праглынула, трымаючы ў зубах падчас шыцця, праз суткі была ўжо дома.

**Мінск.** Услед за МТЗ, дзе турысты збіралі трактар, прамысловы турызм стала развіваць фабрыка "Слодыч", а на сталічным хлебакамбінаце можна сумесна спячы бліны.

**Барысаў.** На падпітку 42-гадовая кабета прыраўнавала свайго 28-гадовага кавалера і пашкодзіла ў вёсцы Неманіца 8 шклопакетаў і ўваходныя дзверы на 5 тысяч долараў.

**Гомель.** Дзясяткі гараджан на набярэжнай ракі Сож правялі флэшмоб пратэсту супраць намераў улад здаць у арэнду тры ўчасткі вадаёма, петыцыю падпісалі 4 тысячы чалавек.

**Лоеў.** Суд раёна пакараў штрафам па 840 рублёў кожнага двух жыхароў Гомеля, якія пераплылі Сож праз граніцу з Украінай, каб пагаварыць са знаёмым рыбаком.

**Баранавічы.** Трое школьнікаў горада атрымалі апёкі цела, калі распалілі касцёр у памяшканні недабудаванага магазіна і сталі забаўляцца з балончыкам аэразолі.

**Калінкавічы.** Да 6 месяцаў арышту пагражае 37-гадоваму жыхару райцэнтра, які пакрыўдзіўся на супрацоўнікаў дзяржаўтаінспекцыіі і адправіў ім ліст з парнаграфічнымі малюнкамі.

**Мінск.** Капітан зборнай Беларусі па хакеі беларус Андрэй Стась прыняў грамадзянства Расіі, каб на 3 гады заключыць кантракт з ХК "Авангард" (Омск) і добра зарабіць.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** Эканамічны суд вобласці прызнаў банкрутам мясцовы вінаробчы камбінат, ён будзе ліквідаваны на працягу года, даўгі толькі перад бюджэтам перавысілі 7 млн. рублёў.

**Віцебск.** У чатырох пунктах у цэнтралізаваным тэсціраванні ўдзельнічалі сёлета ў вобласці 32,2 тысячы абітурыентаў, на 4 тысячы болей, чым летась.

**Орша.** Абноўлены гарпасёлак Копысь вельмі спадабаўся А. Лукашэнку і ён загадаў з наступнага года так у кожнай вобласці абуладкаваць па два пасёлкі гарадскога тыпу.

**Паставы.** Сетку з 24 прадпрыемстваў грамадскага харчавання мясцовага райпо прызналі лепшай у Беларусі і ўручылі ёй на сходзе ў Мінску спецыяльны Ганаровы знак.

**Лепель.** Моцныя апёкі твару і шыі атрымаў днём у вёсцы Камень 6-гадовы хлопчык, які кінуў запалку ў пустую каністру з-пад бензіну і патрапіў у бальніцу.

**Гарадок.** На беразе маляўнічага возера пасля рэканструкцыі адкрыўся турысцкі аздараўленчы комплекс "Лосвіда" УП "Віцебсктурыст", работы там вяліся з 2015 года.

**Дуброўна.** Супрацоўнікі міліцыі на трасе Брэст-Масква ля вёскі Засценкі затрымалі фуру "Сканія", на ёй непрацуючы жыхар Магілёўшчыны нелегальна вёз груз металалому.

**Верхнядзвінск.** Суд раёна за арганізацыю незаконнай міграцыі в'етнамцаў у Латвію прыгаварыў двух грамадзян Расіі да 3-х і аднаго года пазбаўлення волі.

**Глыбокае.** У рамках акцыі "Зрабі падарунак роднаму гораду" майстры-кавалі фірмы "В ажуре" ўстанавілі на аўтобусным прыпынку першы прыгожы вулічны гадзіннік.

**Полацк.** Пасля запуску ў эксплуатацыю мясцовай ГЭС да выпрацоўкі электраэнергіі падключыліся 3 генератары з улікам колькасці вады, што можа даць рака Заходняя Дзвіна.

**Шуміліна**. Суд пакараў 1,5 гадамі турмы раней судзімую жыхарку вёскі Лажок, яна спачатку паскардзілася ў РАУС на сужыцеля, а потым ударыла нагой міліцыянера.

**Докшыцы.** З дапамогай супрацоўнікаў міліцыі і райаддзела МНС знайшлі 80-гадовую пенсіянерку з вёскі Асінавік, якая пайшла ў лес за грыбамі і заблудзілася ў гушчары.

**Браслаў.** Абласны суд задаволіў пратэст раённай пракуратуры на прысуд суда раёна і павялічыў тэрмін зняволення з 11 да 14 гадоў вяскоўцу, які 4 разы ўдарыў нажом суседа.

**Верхнядзвінск.** Услед за Брэстам у паляўнічай гаспадарцы "Чырвоны бор" устанавілі веб-камеру для назірання на рэдкай драпежнай балотнай птушкай – скапой.

**Мёры.** Жыхарку райцэнтра пакаралі штрафам 23 рублі за парушэнне правілаў выпасу коз ля чыгункі, адна з іх выбегла на пуці, машыніст прымяніў экстранае тармажэнне.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Што прыцягвае жыхароў сталіцы ў аддаленую вёску?

**Вёска Каптаруны размешчана на самай мяжы з Літвой. Каб даехаць да яе, трэба ад Лынтупаў амаль дзесяць кіламетраў ехаць вузкай дарогай, пасыпанай жвірам. Тут нават мабільнік не ўсюды дасяжны, лепш ловіцца Літва, якая зусім побач.**

**■ Зміцер Лупач**

Але не гэтым адметная вёска Каптаруны. У ёй не засталося мясцовых жыхароў. Затое шмат дамоў набылі жыхары сталіцы. Прычым жыхары не простыя, а мастакі, пісьменнікі, выдаўцы… Першым сюды прыехаў мастак і пісьменнік Артур Клінаў, які і стаў заснавальнікам артвёскі. Зараз у Каптарунах праходзіць кінафестываль "Хранатоп", на якім маладыя людзі сустракаюцца з беларускімі і замежнымі кінарэжысёрамі, а таксама самі вучацца здымаць дакументальныя стужкі. Мы спыталі ў сталічных жыхароў, чым прыцягвае іх гэта вёска?



**Антон Сідарэнка, кінакрытык:**

– Вось мы якраз і думаем над гэтым, чаму людзі адсюль з'ехалі. Бо тут проста цудоўнае месца. Магчыма, калі ты выязджаеш з вялікага горада, дзе мільёны людзей, табе адкрываецца нешта цікавае, тое, што ты не паспяваеш заўважыць у вялікім горадзе. З-за гарадскога рытму, таму што ты вечна спяшаешся, нешта пастаянна мільгаціць перад вачыма, нешта шуміць у вушах. Ты прыязджаеш сюды і перазагружаешся, як камп'ютар. У нейкім сэнсе нанава нараджаешся. Ходзіш, дыхаеш чыстым паветрам, якое тут проста неверагоднае, плаваеш на возеры, і ў галаву прыходзяць новыя думкі, свежыя ідэі.



**Артур Клінаў, мастак, пісьменнік:**

– Мы тут здымалі кіно пяць год таму з Андрэем Кудзіненкам. Тут у нас было некалькі сцэн, што здымаліся ў Каптарунах. Як я сюды прыехаў, то адразу зразумеў, што выязджаць адсюль не хочацца. Я проста захацеў у гэта месца і сказаў сабе, што хачу тут дом. Так я набыў тут першы дом. А з часам з'явілася жаданне зрабіць гэта не для аднаго сябе, а каб быў такі грамадскі праект. Так з'явілася ідэя артвёскі Каптаруны. Такой вёскі, каб яна была тэрыторыяй для свабоднай творчасці. Каб тут праводзіліся фестывалі, пленэры, розныя сустрэчы… І каб гэта месца было мастом культураў, бо мы знаходзімся на тэрыторыі, дзе гістарычна сыходзіліся чатыры культуры. Бо тут большасць мясцовых жыхароў амаль вольна размаўлялі на чатырох мовах: на беларускай, літоўскай, польскай і расейскай. Гістарычна так склалася, што літоўцы, беларусы, польская віленская меншасць, ну і, вядома, габрэйская культура. Бо Лынтупы былі ў свой час габрэйскім мястэчкам. Вось гэтыя чатыры культуры тут сыходзіліся. І ідэя нашай вёскі – каб гэтыя культуры зноў тут сышліся. Каб былі тут розныя міжнародныя імпрэзы, каб у іх удзельнічалі беларусы, літоўцы, палякі, ну і па магчымасці, адрадзіць габрэйскія традыцыі. Так мы гэты праект пачалі і ўжо паспяхова рухаемся ў гэтым накірунку.



**Наста Шпакоўская, акторка, спявачка:**

– Гэта складанае пытанне, бо ў кожнага з нас лёс складаецца так, што мы мусім некуды ехаць і штосьці рабіць у сваім жыцці. Калі ты прыязджаеш сюды, у Каптаруны, то адчуваеш нейкую магію, тут адчуваецца прысутнасць у паветры столькі невядомага, гэта акрамя цудоўнай прыроды. Таму сюды варта прыязджаць, варта дыхаць гэтым паветрам, займацца тут творчасцю. Бо гэта месца для творчасці, для пачуццяў, для сапраўдных узаемаадносін.



**Андрэй Кудзіненка, кінарэжысёр:**

– Мы здымалі тут з Артурам Клінавым кіно, вельмі спадабаліся гэтыя мясціны, і Артур купіў тут дом. Потым нарадзілася ідэя праводзіць тут кінафестывалі. Сёлета таксама тут адбываецца кінафестываль "Хранатоп", ужо другі па ліку. Таму і надалей мы плануем тут збіраць творчых людзей.

# "Вялесаў шлях"

**У рамках Вішнёвага фестывалю, 20 ліпеня, на аграсядзібе "Запаведны востраў", што ля возера Івесь, адбыўся конкурс "Міс Экстрым".**

**Колішнія міс з Еўропы і Сірыі апранулі акваланґі і пагрузіліся ў воды возера Івесь. Акрамя таго міс дэгуставалі сыры з казінага малака, выробленыя Аксанай Лашкевіч з "Краіны мар".**

■ **Уладзімір Скрабатун**

У розных месцах Глыбоччыны, ледзьве не штодня, адбываюцца цікавыя падзеі. Ты альбо іх "не даганяеш", альбо зусім не стае часу наведацца ўсюды. Напрыклад, на мінулым тыдні, на самым глыбокім возеры Беларусі – Доўгім – адзначалі Міжнародны дзень жанчын дайвераў.

Аднак адну падзею прапусціць мы ніяк не маглі! Патэлефанавала Аксана Лашкевіч з вёскі Хралы і запрасіла нас на прэзентацыю аграсядзіб і фермерскіх гаспадарак, якія сталіся кааператывам "Вялесаў шлях", а ён распрацоўвае аднайменны турыстычны маршрут.

– Уладзімір Іванавіч, прыязджайце вы ці вашыя калегі да нас у Хралы! Я буду прадстаўляць асабістую падсобную гаспадарку "Краіна мар", праводзіць дэгустацыю сваіх вырабаў – сыроў з казінага малака. Будзе тут і "Запаведны востраў" Аляксандра Цвіркі, "Утрына" Мельнічэнкаў, сялянска-фермерская гаспадарка Серафімовічаў са Скрабатуноў. А самая галоўная цікавостка – заўтра да нас прыедуць міс розных гадоў з краінаў Еўропы і Сірыі. Будзе конкурс "Міс Экстрым". Дзяўчаты з аквалангамі будуць пагружацца ў возера Івесь.

Хто б мог падумаць яшчэ гадоў 12 таму, калі мы запісвалі ў Хралах успаміны старажылаў аб подзвігу Паўла Палчынскага, камандзіра польскай заставы Каменны Воз, які на досвітку 17 верасня 1939 года прыняў няроўны бой з Чырвонай Арміяй, калі яна перайшла польска-савецкую мяжу, што амаль знікаючая тады вёска Хралы, сёння стане сапраўдным раем. Яе адрадзілі не вяскоўцы, а гараджане: палачане і навапалачане, а таксама мінчукі. Ёсць тут цяпер шмат дабротных дамоў, якія накрытыя металадахоўкай. А вось аграсядзіба "Запаведны востраў" аформлена ў духу беларускай сівой мінуўшчыны, і зрабіў гэта ўсё – мінчук Аляксандр Цвірка, які ў сталіцы займаўся бізнесам, але прыехаў сюды назаўсёды.



**Гаспадар аграсядзібы Аляксандр Цвірка і Аксана Лашкевіч з сырамі на падносе сустракаюць міс з Еўропы і Сірыі на "Запаведным востраве".** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Аляксандр пазнаёміў нас са сваёй аграсядзібай, якая складаецца з комплексу розных будынкаў, а таксама падсобнай гаспадаркі, дзе водзіцца ўсялякая жыўнасць: куры, гусі, качкі, індыкі, в'етнамскія свінкі, козы і авечкі, а таксама трусы.

Аляксандр апавёў, што на востраве возера Івесь хоча зрабіць рэканструкцыю капішча, кансультаваўся нават у археолага Сяргея Тарасава. Ну, калі гаспадар "Запаведнага вострава" збіраецца развіваць турызм, то мы яму зрабілі адну падказку – недалёка, паўкіламетра-кіламетр, знаходзіцца самы вялікі камень Глыбоччыны.

Аляксандр Цвірка ўсё яшчэ верыць, што жыве ў Цэнтры Еўропы!

– Наша сённяшняе раённае начальства касцямі лягло б, але Полацку – кукіш, і без масла – Цэнтр Еўропы не аддало б ніколі! – суцяшае аўтар гэтых радкоў.

Аксана Лашкевіч гадуе астатак з 21 казы, з якіх – 3 казлы. Займаецца вырабам розных відаў сыроў з казінага малака. А ўжо ўсялякай рознай жыўнасці ў яе двары і вальерах – в'етнамскія свінні, куры, качкі, гусі – не пералічыць. Сама спадарыня Аксана – інжынер-механік па прафесіі, аднак займалася бізнесам у Наваполацку. Кінула горад і знайшла сябе тут, на Глыбоччыне, ужо сем гадоў як з мужам жыве ў вёсцы Хралы, што на ўскрайку Галубіцкай пушчы. Тут, тузін блакітных азёраў, з якіх найбольш вядомыя – возера Доўгае, самае глыбокае возера краіны, і возера Белае, эталоннае возера па чысціні. Гаспадарка ж самой Аксаны Лашкевіч знаходзіцца на беразе возера Івесь. А самае вядомае тут, хоць і не ўнікальнае, возера Шо, пасярод якога да нядаўняга часу, быў глыбоцкі "Цэнтр Еўропы".

Натуральна, усе каштавалі сыры розных відаў з казінага малака Аксаны Лашкевіч. Выдатны, дарэчы, смак!

– Мы сёння праводзім адкрыццё – прэзентацыю – нашага кааператыва "Вялесаў шлях",– тлумачыць спадарыня Аксана. – У яго ўваходзіць некалькі аграсядзіб: "Цэнтр Еўропы", "Запаведны востраў", "Утрына", сялянска-фермерская гаспадарка Серафімовічаў, якая займаецца конегадоўляй, а таксама мая АПГ (асабістая падсобная гаспадарка) – "Краіна мар". "Вялесаў шлях" будзе ў нас турыстычным маршрутам. Мы будзем запрашаць людзей паглядзець нашыя цудоўныя мясціны, нашую прыгожую Беларусь!

– Я палюбіла козаў! Можа я, калісьці, была і сама казой! (Смяецца!) Вольналюбівыя жывёлы. Яны блізкія мне па духу! Ім трэба пастаянна рухацца, яны вель-




**Міс Украіна.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Аляксандр Цвірка, уладальнік аграсядзібы "Запаведны востраў" і Наталля Трафімава, якая без комплексаў прадставілася так: "Грамадскі дзяяч, мадэль, вядомы ўдзельнік шматлікіх міжнародных конкурсаў, прадстаўнік Беларусі, намінант шматлікіх конкурсаў, я з Вікіпедыі, я адвакат з Мінскай гарадской калегіі адвакатаў, я – арганізатар – і той хто прыдумаў гэты конкурс – Міс Экстрым". Сама Наталля прадстаўляла тут аграсядзібу "Утрына" з Маргоў (каля Перадолаў).** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Інструктар па дайвінгу Андрэй Смірноў праводзіць з міс заняткі па тэхніцы бяспекі пры выкарыстанні акваланґаў у вадзе.** *Фота Ул. Скрабатун.*

# "За годам год..." – летапіс Глыбоччыны ў карцінах

■ **Уладзімір Скрабатун**

**У рамках Вішнёвага фестывалю ў Гарадскім цэнтры культуры адкрылася традыцыйная выстава карцін работы мастака Эдуарда Мацюшонка, нашага земляка, які паходзіць з Мнюты, а жыве, працуе і стварае ў Вілейцы.**

Трэба адзначыць, што творчасць Эдурда Мацюшонка мае вялікае кола прыхільнікаў. Прыхільнікі заўсёды адгукаюцца на персанальнае запрашэнне мастака (не ўсе ж ходзяць па цэнтры горада і чытаюць афішы).

Карціны мастака насычаныя сімвалізмам, тут кожная дэталь нясе пэўны сэнс, як тое будзе дробная кветачка і кузурка на ёй, як і зорка на небе альбо вялізны дуб з пэўнай колькасцю каранёў – нашчадкаў чыйгосьці роду, сям'і.

Мастак у сваіх палотнах робіць рэканструкцыю летапісу нашага краю. Пад яго пэндзалем паўстаюць палацы і касцёлы, якія зыйшлі ў нябыт, вяртаецца славутая "Пліская Венецыя" на Альгердавым шляху, а заміж сённяшніх руінаў кляштара кармелітаў у Глыбокім – паўстае рамантычная карціна, цэласны вобраз велічнага некалі кляштара, з манахамі, якія ў месяцавым ззянні, на лодцы ловяць сеткамі рыбу ў кляшторнай сажалцы. А што мы ўбачым сёння? Руіны, а на месцы сажалкі – былы кансервавы завод.

Карціна "Скрыпка Страдзівары"... Вісела сабе старая скрыпка на сцяне музейчыка ў вёсцы Гарадзец, што каля Лужак. Ніхто ёй не надаваў пільнай увагі. Ці мала скрыпак у музеях! Пакуль не агледзілі спецыялісты! Унутры – не двухсэнсоўны подпіс, што гэта скрыпка работы Страдзівары!

Захапляльны сюжэт для напісання рамантычнай карціны: з палацам Зіберг-Плятэраў на фоне разлеглага парка, скрыпкай, гербамі, шляхтай... Вось вам і нечаканая гісторыя вёскі.

Але, перадусім, Эдуард Мацюшонак прадстаўляе свае работы як выдатны апавядальнік, які можа прысутных зачараваць веліччу нашай беларускай гісторыі, яе культуры. Так, спадар Эдуард, не толькі мастак, гісторык і краязнаўца па духу, але і Педагог з вялікай літары! Ад яго выдатнай беларускай мовы – толькі дадатныя ўражанні ў прысутных.



**На адкрыццё выставы работ мастака Эдуарда Мацюшонка (справа) завітаў нашчадак роду Корсакаў з Варшавы – Аляксандр Корсак.**

Вядомы па старых фотаздымках сілуэт беразвецкай царквы Пятра й Паўла, перліны не толькі глыбоцкай архітэктуры, але і еўрапейскай, набывае ў карціне Эдуарда Мацюшонка трагічны сімвалізм. Мастак паказвае не толькі прыгажосць святыны, але хоча, каб людзі глядзелі на гэтую святыню, якой ужо няма, праз прызму нашай трагічнай беларускай гісторыі. Тысячы загінулых у беразвецкай турме НКВД, а яшчэ болей у фашысцкім канцлагеры. Сілуэты лю-

# у "Краіне мар"




**Міс Грэцыя, інструктар па дайвінгу Андрэй Смірноў (Мінск), Міс Беларусь і Міс Турцыя перад пагружэннем у аквалангах у воды возера Івесь.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

мі актыўныя. Гэта не карова, якая будзе стаяць на месцы і есці траву. Каза будзе шукаць, што ёй трэба з'есці. Таму, калі козы на вольным выпасе, то ў іх – самае смачнае малако, і адпаведна – самыя смачныя сыры!

– Я завяла спачатку адну казу, потым другую, цяпер у мяне 21 каза! Ну, на гэтым, я думаю, не спынюся! Пакуль ёсць здароўе і сілы – буду павялічваць пагалоўе! Казінае малако – лекавае малако, яго трэба піць усім як лекі!

І тут, калі мы знаёміліся з аграсядзібай, дэгуставалі сыры спадарыні Аксаны, на лясной дарозе паказалася група дзяўчат у жоўтых футболках з надпісам "Міс Экстрым". Гаспадар сядзібы Аляксандр Цвірка і Аксана Лашкевіч на падносе з сырамі пайшлі сустракаць гасцей. Дэгустацыя далей працягвалася ў альтанцы ля возера. Нехта, жартам, параіў – не пераядаць! Бо неўзабаве трэба апранаць аквалангі, а ўсплыць на паверхню мусяць усе! Інакш глыбоцкія МНСнікі прыедуць ратаваць тапельцаў не так і хутка, гадзіны праз дзве!

На конкурс "Міс Экстрым", якіх арганізавала Наталля Трафімава ("Утрына") прыехалі міс розных гадоў, "славянскай знешнасці", якія некалі выехалі з Расіі, Беларусі і іншых краін СНД: міс Турцыя, аж дзве міс Грэцыя (!), міс Беларусь, міс Украіна і нават міс Сірыя (Азія)!

Інструктаж па карыстанні аквалангам і тэхніку бяспекі пры пагружэнні пад ваду правёў Андрэй Смірноў, яму дапамагала дачка Паліна, ужо дасведчаны дайвер. Яны прыехалі з Мінска. Там, пры магазіне "**Sublife**" – у якім атаварваецца і Глыбоцкі МНС – маецца дайверскі клуб. Усё для дайвінгу, то бок для правядзення конкурсу "Міс Экстрым": балоны, маскі, ласты, гідракасцюмы – і прывёз на мікрааўтобусе Андрэй Смірноў. Які, дарэчы, і арганізоўвае мерапрыемствы дайвераў на возеры Доўгім, адным з самых прыдатных азёраў Беларусі для дайвінгу з-за яго крыштальнай чысціні вады.

Дзяўчат падзялілі на дзве групы, то бок было два пагружэнні. Усплыць на паверхню мусяць усе! За малой жа групай лягчэй усачыць інструктару, які з дзяўчатамі пагружаўся пад ваду. Дзяўчаты, скажам так, без комплексаў! Дзве грачанкі, наогул, вялі наўпроставую трансляцыю са смартфонаў у Грэцыю, каментавалі па-грэцку і па-руску, дзяліліся ўражаннямі ад мерапрыемства. Міс Беларусь жартавала: "Здаецца і раджала, але так страшна лезці пад ваду. Не ўяўляю, як можна там дыхаць не носам, а ротам!". Калі ў міс Сірыі, якая даўжэй за ўсіх была пад вадой, па выхадзе на сушу ўсе хорам запыталі: "Ну, як! Якія ўражанні?"

– О! Гэта круцей за аргазм! – ацаніла дайвінг сірыйка.

На заканчэнне мерапрыемства была яшчэ адна атракцыя. Дзяўчаты пайшлі ў вальеры да жывёлаў. Конкурс – хто хутчэй падбяжыць да в'етнамскай свінкі і пагладзіць яе! Здаецца, не дагнала ніводная, хіба што, ўсё ж, пашанцавала зноў жа той міс Сірыя. На заканчэнне былі ўручаныя прызы намінантам конкурсу "Міс Экстрым". Натуральна, пераможцам стала... міс Сірыя!

Напрыканцы прабывання на аграсядзібе дзяўчаты ўзышлі на караблік "Запаведны востраў" і адправіліся праз усё возера на супрацьлеглы далёкі бераг, адтуль мікрааўтобусам – да Серафімовічаў.



**Дзяўчаты пад кіраўніцтвам Андрэя Смірнова робяць першыя крокі ў дайвінгу.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Што ўразіла на "Запаведным востраве", дык гэта – поўная адсутнасць камароў і аваднёў. Варта было нашаму аператару Леаніду Юрыку адысці 150 м да прыпаркаванага аўтамабіля, як на яго накінулася цэлая хмара крывасмокаў.

– Чаму?– пытаем Аляксандра Цвірку.

– Авадні і камары ляцяць на нагрэтыя паверхні. Аўтамабіль на сонцы нагрэўся, падобна як целы жывёлаў і чалавека выпраменьваюць цяпло. Вось і ляцяць авадні да цяпла! У Серафімовічаў, каб не кусалі коней, стаяць шарыпасткі. Шар награваецца і авадні залятаюць ва ўнутр, дзе і гінуць.

Папярэднія глыбоцкія ўлады без бою аддалі Полацку "Цэнтр Еўропы", не стрэліўшы, вобразна кажучы, не тое што з гаўбіц у бок "захопнікаў", нават з рагаткі, не паслалі на худы канец яго на тры вясёлых літары! Нахалеры, маўляў, нам той Цэнтр Еўропы! Што з ім рабіць? Забралі – і добра!

Людзям, якія тут жывуць, патрэбны! Яны сарганізаваліся ў кааператыў, хочуць займацца турызмам, частаваць турыстаў сырамі, праводзіць экскурсіі, конныя вандроўкі. Бо ёсць у іх цяпер свая "Краіна мар" у Цэнтры Еўропы, праз якую ідзе "Вялесаў шлях"!



**Ёсць на Глыбоччыне азёры, па якіх ходзяць, калі не караблі, дык караблікі. Гэта – возера Івесь. Міс з краінаў Еўропы адправіліся на супрацьлеглы бераг – 2,12 км – адкуль мікрааўтобусам паедуць на хутар Скрабатуны – да Якава Серафімовіча, дзе іх чакаюць конныя прагулкі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Эдуарда Мацюшонка

дзей на карціне, нібыта душы бязвінна загінулых, праходзяць праз празрысты іканастас, з якога з абраза на іх пазірае Маці Божая.

Шмат увагі мастак надае сваё малой радзіме – Мнюце, дзе задарожскі касцёл і вялікае возера Мнюта, дзе шляхі і пагоркі, па якіх ступала нага вандроўнага мастака Язэпа Драздовіча. Мастак захоплены асобай Язэпа Драздовіча, імкнецца адлюстраваць наноў драздовічавы сюжэты, але ўжо пад сваім ракурсам.

"Паланез пакінутых сядзіб"... Што за кветка вяргіня? Мастак адкажа – памяць аб бацькоўскім доме. Дома ўжо няма, падмуркі ўраслі ў зямлю, вакол крапіва і чартапалох. Але, неймаверна, праз дзесяцігоддзі, перад колішнім домам, прарываючыся ўверх праз калючыя зараснікі, над якімі і сёння – усё яшчэ – квітнеюць жоўтыя вяргіні! – Прывітанне, ты вярнуўся да бацькоўскага дома! Не забывайся! Вяртайся часцей, а я цябе сустрэну ізноў сваімі кветкамі!



**"Паланез пакінутых сядзіб", 2015 г.**

Трэба памятаць свае карані, памятаць аб Дзядах і бацьках. У Эдуарда, паўгода таму, зышоў у лепшы свет і бацька. Памяці бацькі мастак прысвяціў карціну, дзе праз цёмную, але празрыстую постаць бацькі – свецяцца на небе зоркі.

Выставы Эдуарда Мацюшонка ў Глыбокім, гэта, перадусім, своеасаблівы свет, які прываблівае сваёй цеплынёй, і ў гэтым свеце – хочацца затрымацца даўжэй і не сыходзіць з яго заўчасна.



**"Полацак-Вільня цераз Пліса",** мастак Э. Мацюшонак, 2015 г. **Пліса над ракой Мнютай некалі нагадвала Венецыю. Справа – слынны калісьці дом на палях** (сваях – руск.) **на рацэ Мнюта.**

## 28 ліпеня – Сусветны Дзень барацьбы з гепатытам

# Абарані сябе ад парэнтэральныга віруснага гепатыту

■ С. Стальмачонак,
*памочнік урача-эпідэміёлага.*

**Штогод 28 ліпеня адзначаецца Сусветны дзень барацьбы з гепатытам. Вірусны гепатыт дзівіць сотні мільёнаў людзей ва ўсім свеце, выклікаючы вострыя і хранічныя захворванні печані, якія прыводзяць да 1,4 мільёнаў выпадкаў смерці. Праблема захворвання на вірусныя гепатыты з'яўляецца актуальнай для многіх краін свету, у тым ліку і для нашай краіны.**

Рэспубліка Беларусь адносіцца да рэгіёнаў свету з умераным узроўнем распаўсюджвання парэнтэральных вірусных гепатытаў (далей ПВГ). У Віцебскай вобласці ў 2016г. быў выяўлены 791 выпадак ПВГ. **У раёне штогод рэгіструецца каля 20-30 зноў выяўленых выпадкаў ПВГ.** У структуры ПВГ пераважаюць хранічныя формы парэнтэральных гепатытаў В і С.

Парэнтэральныя вірусныя гепатыты – гэта запаленчыя захворванні печані, выкліканыя вірусамі гепатытаў В, С і D. Найбольш уразлівымі ўзроставымі групамі з'яўляюцца пераважна асобы ва ўзросце ад 20 да 60 гадоў.

Крыніцай інфекцыі парэнтэральных вірусных гепатытаў з'яўляецца чалавек – хворы гепатытам у вострай або хранічнай форме, а таксама бессімптомны носьбіт віруса. Носьбіты вірусаў могуць не здагадвацца, што яны заражаныя і з'яўляюцца крыніцай інфекцыі. Вірус змяшчаецца ў высокіх канцэнтрацыях ў крыві, сперме, вагінальным сакрэце, у меншых – у сліне, мачы, грудным малацэ. Для заражэння дастаткова драбнюткай кроплі крыві (0,0005 мл), часам нават нябачнай няўзброеным вокам.

**Як выяўляецца інфекцыя?** Інфекцыя можа працякаць як клінічна выяўленая, так і бессімптомна. Інкубацыйны перыяд (перыяд ад моманту заражэння да першых клінічных праяў) складае ад 2 тыдняў да 6 месяцаў. Працяглы інкубацыйны перыяд абцяжарвае своечасовую дыягностыку, паколькі агульнае недамаганне, слабасць, зніжэнне апетыту ў пачатковым перыядзе захворвання асаблівай трывогі ў хворага не выклікаюць, і як правіла, спісваецца на «простую стомленасць». У далейшым паступова павялічваецца печань, селязёнка, з'яўляецца сверб скуры, мача цямнее, кал абесколяроўваецца, з'яўляецца жаўтушнасць і склер скурных пакроваў, узнікаюць болі ў правым падрабрынні. Небяспека гэтых гепатытаў заключаецца ў схільнасці да развіцця хранічнай інфекцыі, пры якой вірус захоўваецца ў арганізме чалавека дзесяткі гадоў і, паступова руйнуючы печань, можа прывесці да цырозу ці раку печані. Больш за палову выпадкаў ПВГ першыя 5 - 10 гадоў пасля інфікавання працякаюць без выяўленых клінічных праяў – у форме носьбітаў. Вірусы, якія выклікаюць вірусныя гепатыты В і С, называюць «ціхімі забойцамі», таму што з імі можна жыць гадамі, нічога не падазраваць і неўсвядомлена перадаваць вірус іншым людзям.



Да неспрыяльных фактараў, якія ўскладняюць працяг захворвання, адносяцца: злоўжыванне алкаголем, ужыванне наркотыкаў, заражэнне некалькімі вірусамі, аслаблены імунітэт. Для аднаўлення функцыі клетак печані патрабуюцца працяглы час, сур'ёзнае лячэнне і строгі рэжым харчавання, які забяспечвае зберагалую нагрузку на клеткі печані.

**Інфікаванне вірусам гепатыту В, С і D можа адбыцца ў наступных сітуацыях:**

› **ад інфікаванай маці да дзіцяці** (унутрывантробна праз плацэнту падчас цяжарнасці або падчас родаў пры праходжанні плада праз радавыя шляхі);

› **пры неабароненых палавых кантактах;**

› **пры бытавым кантакце** (пры судотыку з пашкоджанымі скурнымі пакровамі і слізістымі абалонкамі інфікаванага чалавека, пры доглядзе за ім, падчас вулічных боек; пры сумесным выкарыстанні з хворым агульных прадметаў асабістай гігіены – брытвавых прыналежнасцяў, вяхотак, зубных шчотак, грабянцоў, нажніц, забруджаных біялагічнымі вадкасцямі);

› **пры ўнутрывенным увядзенні наркотыкаў** з выкарыстаннем агульных шпрыцоў, іголак або ўжо інфікаванага наркотыку;

› **падчас нанясення татуіровак, правядзення пірсінгу, манікюру** ў непрыстасаваных умовах забруджаным нестэрыльным інструментарыем;

› некаторая рызыка заражэння існуе і пры правядзенні медыцынскіх маніпуляцый: пры пераліванні крыві, пры розных хірургічных умяшаннях, дыягнастычных працэдурах. Аднак у нашай краіне гэтая рызыка зведзена да мінімуму, г.зн. пры правядзенні маніпуляцый выкарыстоўваюцца аднаразовыя стэрыльныя шпрыцы, інструментар і перавязачны матэрыял, а для папярэджання заражэння праз донарскую кроў – уся кроў тэстуецца на вірусы.

**Вірусы гепатытаў В, С і D не перадаюцца:**

› пры чханні або кашлі;

› пры поцісках рукі, абдымках ці сяброўскіх пацалунках;

› праз ваду, ежу або сталовы посуд.

**Прафілактыка – гэта:**

› Вакцынацыя супраць гепатыту В. Ужывальная вакцына высокаэфектыўная і прадухіляе ўзнікненне гепатыту В на 95%. (Вакцыны супраць гепатыту С у свеце не існуе, навуковыя даследаванні па яе стварэнні вядуцца.)

› **Надзейны адзіны палавы партнёр і выкарыстанне прэзерватыва.**

› **Катэгарычную адмову ад унутрывеннага ўвядзення наркотыкаў.**

› **Выкарыстанне толькі індывідуальных прадметаў асабістай гігіены:** брытваў і манікюрных прыладаў, ручнікоў, нажніц, грабянцоў, вяхотак, зубных шчотак.

› **Асцярожнае стаўленне да ўсіх маніпуляцый, падчас якіх парушаецца цэласнасць скурных і слізістых пакроваў** – да татуіровак, пірсінгу, манікюры і інш., асабліва калі яны праводзяцца ў непрыстасаваных умовах, дзе не выконваюцца правілы дэзінфекцыі і стэрылізацыі.

**ПАМЯТАЙЦЕ: Ваша асабістае здароўе залежыць толькі ад Вас.**

# Адны адпачывалі на Вішнёвым фестывалі, іншыя – паспяхова палявалі на браканьераў!

## Толькі за адзін святочны дзень інспектары канфіскавалі 400 метраў браканьерскіх сетак

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Надышлі па-сапраўднаму цёплыя летнія дні, народ масава пацягнуўся на вадаёмы: купацца, адпачываць, смажыць шашлыкі. У Глыбоцкім раёне скончыў сваю святочную праграму пяты Міжнародны «Вішнёвы фестываль».**

У гэты час супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі рабілі сваю штодзённую нялёгкую працу па ахове прыроды. Толькі за адзін святочны дзень, пятніцу, інспектары выявілі 6 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, канфіскавалі ў браканьераў амаль 400 метраў сетак і 20 кг незаконна здабытай рыбы. Гэта толькі адны суткі працы інспектараў.

**20 ліпеня** каля 22 гадзін вечара інспектарам паступіў сігнал аб тым, што на возеры Малая Пліса (Заплiссе), двое грамадзян пад покрывам змроку магчыма ўсталявалі сеткі. Інспектары неадкладна выехалі на вадаём і вялі за ім назіранне. Прайшоў цэлы дзень, з возера з'ехалі апошнія рыбакі і вось у цемры з'явіліся двое мужчын, якія хутка селі ў драўляную лодку, што стаяла на беразе, і паплылі на возера. Нягледзячы на позні час інспектары выразна бачылі ўсе дзеянні парушальнікаў, якія здымалі сеткі побач з берагам і не падазравалі, што ўсе іх дзеянні здымаюцца на відэакамеру. Як толькі лодка прычаліла да берага і гора-рыбакі ступілі на зямлю, інспектары імгненна іх затрымалі, паклалі тварам долу. Не прайшло і пару хвілін пасля выкліку службовай аўтамашыны, як аднаму з затрыманых паступіў званок на мабільны тэлефон аб тым, што да іх накіроўваецца аўтамашына інспекцыі, адказ быў вельмі кароткі: **«Ужо позна тэлефануеш, мы ляжым тварам да зямлі!».** Так званая «фішка» спрацавала дрэнна. У затрыманых канфіскаваныя тры сеткі і 15 кг. рыбы, з якой 13 асобін ліна і тры асобіны акуня. Шкода, прычыненая прыродзе, склала больш за 1 тысячу 900 рублёў. Парушальнікам, жыхарам Пастаўскага раёна, прыйдзецца яшчэ заплаціць і штраф, які складае ад 20 да 50 базавых велічынь.

У гэты ж вечар другая рэйдавая група інспекцыі атрымала паведамленне аб сетках на возеры Мушкат Глыбоцкага раёна. Дзень назірання і чакання - цішыня, толькі рыбаловы -аматары з вудамі ды народ, які адпачывае. Але вось насталі прыцемкі і нібы «ваўкалак» з цемры паказаўся чалавек. Не доўга думаючы, ён распрануўся і зайшоў у возера, адкуль дастаў сетку з рыбай і тут жа быў прыняты ў «гарачыя» абдымкі інспектара. Затрыманы жыхар г. Глыбокае такога павароту падзей не чакаў і адразу ж ва ўсім прызнаўся. Улоў хоць і не вялікі, усяго 2 карасі, але вагой 2 кг.

Не паспеў інспектар затрыманага парушальніка даставіць да службовай машыны, як атрымаў паведамленне ад напарніка,пра тое, што і ў яго браканьер з сеткай і рыбай выйшаў з вады наўпрост у рукі. Праўда, сустрэча з інспектарам не ўваходзіла ў планы парушальніка і ад нечаканасці рыбачок стаў адмахвацца мяшком з сеткай, пры гэтым крычаў: "Цур не я, цур не я!" Напэўна падумаў, што інспектар - гэта прывід. У затрыманага глыбачаніна таксама аказалася сетка і два карасі срэбных. Цяпер няўдачлівых рыбаловаў чакае раённы суд і самавітае грашовае «ўзнагароджанне» ад 20 да 50 базавых велічынь або ад 460 да 1150 рублёў і кампенсацыя шкоды, нанесенай прыродзе ў памеры 50 рублёў кожнаму.

Вось такія насычаныя прыгодамі атрымаліся працоўныя суткі інспектараў! Калі ў каго ёсць жаданне паўдзельнічаць у рэйдавых мерапрыемствах інспекцыі, ахвотна запрашаем.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету выказвае велізарную падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў захаванні прыродных багаццяў нашай цудоўнай Радзімы.

**Нумары «тэлефона даверу» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету: 8-02156-5-59-80, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 мтс.**

## МНС інфармуе
**на 25.07.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 396;
Гібель людзей – 57, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 24;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

